# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1583) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 14 ВЕРАСНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.




### НЕ МІНАЙ

Не мінай, загляні на Падлессе.
Гэты край не падобны другім.
Пад блакітным яго паднябессем
Ты пачуеш шмат песень, былін.

Не ўсё тут адразу прыкмеціш,
Разглядзі ты яго неспяша.
Шмат легендаў аб ім ёсць
на свеце,
Ад якіх ўстрапянецца душа.

Не ўсялякая кветка мне вока
Прыгажосцю сваёй асляпіць —
Адну бачыш за гоні, здалека;
За другою — вярсту трэба збіць.

Так і край гэты, вер ты мне,
братка,
Кветкай ў сэрца табе западзе.
Ён сагрэе цябе, як дзіцятка,
У хвіліне шчаслівай й бядзе.

Ён прыхільны, бы родная маці,
Усе струны кране ў душы.

(Працяг на стар. 4)



Надбужанскі пейзаж. Графіка У. Петрука.

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР



## ПАКЛОН ВІЦЕБСКУ

Другі дзень сваёй пабыўкі ў Віцебску рашыў я прысвяціць на знаёмства з гэтым старажытным беларускім горадам. Адпраўляючыся ў сваю паездку па БССР, прачытаў я ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, што Віцебск гэта горад на паўночным усходзе БССР, цэнтр Віцебскай вобласці, вузел чыгуначных і шасейных дарог, прыстань на рэчцы **Заходняя Дзвіна**, заснаваная ў тым месцы, дзе ў яе ўліваюцца дзве іншыя тутэйшыя рэчкі: **Віцьба** і **Лучоса.** Па велічыні горад крыху перавышае наш Беласток. Сябры гаварылі мне, што зараз у Віцебску пражывае звыш 330 тыс. жыхароў.

Упершыню гэты горад ўпамінаецца, — што таксама адзна-

(Працяг на стар. 4)

## Зрэпарцёрскіх ЗАПІСАК

# ВЁСКА МІНІСТРА

Яшчэ ў ліпені, радыё і тэлебачанне паведамілі, што наш зямляк **Васіль Самойлік** стаў міністрам, узначаліў Міністэрства фінансаў.

Газеты падалі яго кароткую аўтабіяграфію.

*Базыль Самойлік нарадзіўся ў 1943 годзе ў Юзафове, Беластоцкага ваяводства, у сялянскай сям'і. У 1965 годзе закончыў Галоўную школу планавання і статыстыкі, пасля чаго да 1978 года працаваў у гэтай жа вышэйшай навучальнай установе ў якасці выкладчыка. Затым перайшоў на працу ў Цэнтральны Камітэт партыі, у Аддзел планавання і гаспадарчых аналізаў, адкуль перавялі яго на пасаду эканамічнага саветніка старшыні Рады Міністраў. У 1983 годзе ўзначаліў ён калектыў саветнікаў прэм'ер-міністра.*

*У 1981 годзе атрымаў навуковае званне габілітаванага доктара эканамічных навук. За навуковыя даследаванні па тэорыі эканоміі і гаспадарчай палітыкі неаднаразова атрымоўваў узнагароды міністра навукі, вышэйшых навучальных устаноў і тэхнікі, а таксама адзнаку імя Оскара Ланге. Быў членам камісіі Акадэміі Навук дзяржаў-членаў Савета Эканамічнай Узаемадапамогі па справах праектавання эканамічна-фінансавых вырашэнняў. Знаходзіўся ў саставе калектыву камісіі па гаспадарчай рэформе, які рыхтаваў сістэмныя вырашэнні ў галіне цэн, падаткаў і зарплаты. Цяпер з'яўляецца членам сакратарыята ў гэтай камісіі. Кіруе падрыхтоўчымі працамі для апрацоўкі напрамкаў у галіне гаспадарчай палітыкі, асабліва адносна фінансаў, зарплаты і цэн. (...) Між іншым узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі. Член ПАРП.*

— ✲ —

З гэтага сухога пераліку здзяйсненняў, якія выпалі на жыццёвы шлях даволі маладога. бо ўсяго ледзь 43-гадовага міністра, наглядна вынікае, што адыграў ён немалаважную ролю ў ратаванні заняпаўшай гаспадаркі нашай краіны пасля эканамічнага правалу на пераломе 80-х гадоў.

Мяне, аднак, найбольш уразіла інфармацыя, што Васіль Самойлік нарадзіўся на Беласточчыне, у вёсцы **Юзафова.** Я чуў пра гэтую вёску, асабліва яна даволі часта называлася ў расказах Рамана Марданя, калі ён мне ўспамінаў пра сваё партызанскае мінулае. Асабіста, аднак, у Юзафове дагэтуль не давялося мне пабываць, хаця вандрую я па Беласточчыне ўжо 27 год. Проста гэтая вёска чамусьці не трапілася на маіх рэпарцёрскіх сцежках. Магчыма, што пра яе неяк не гаварылася, што яна нічым асаблівым не вылучалася, проста жыла сваім ціхім, працалюбным жыццём, як дзесяткі іншых гэтакіх жа запрацаваных вёсак на нашай роднай Беласточчыне.

— ✲ —

Вёска Юзафова прысела на узгорку між лесам і сенажаццю. Усіх хат я не пералічыў, але не больш іх тут, чым дзесяць.

— Дзе ў вас солтыс? — звярнуўся я да нейкай жанчыны, якая корпалася пасярэдзіне панадворка.

— Няма ў нас солтыса, — адказала яна. — У нас солтыс супольны з Пілатоўшчынай, жыве на хутары, нейкіх два кіламетры адгэтуль.

— Тады я да вас, — заявіў я.

**Альфрэда Карповіч** са здзіўленнем паглядзела на незнаёмага чалавека. А мяне у першую чаргу зацікавіла яе імя, **Альфрэда,** якое адназначна выяўляла веравызнанне гэтай жанчыны. Высветлілася, аднак, што муж у яе — **Мікалай.** Таксама — ва ўмовах Беласточчыны — не можа быць сумненняў, з якой ён сям'і.

— У нашай вёсцы ўсе так паперамешваліся, што ўжо і не разбярэш, хто, дзе і каму б'е паклоны, — паясніла пані Альфрэда. — Вось у мяне быў дзядзька

(Працяг на стар. 6)

# НА МЯЖЫ

## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ
(Заканчэнне)

На працягу многіх месяцаў вёў я разважанні на тэму нацыянальнага і дзяржаўнага ва ўмовах беларускай меншасці ў Народнай Польшчы. Цыкл мой зацягнуўся, між іншым, з тае прычыны, што ад лютага да канца чэрвеня знаходзіўся я па-за межамі краіны і не быў у стане утрымоўваць пастаяннага кантакту з „Нівай".

Зразумела, што не ўсё ўбачанае і перажытае з тых праблем, якія змяшчаюцца ў рамках нацыянальнага пытання, было мною кранута і адлюстравана. Аднак, стараўся я па меры магчымасцей прадставіць тое, што лічыў самым характэрным і важным. Адгалоскі чытачоў „Нівы" сведчылі аб тым, што і яны не праходзілі абыякава каля тых спраў, якія я кранаў у сваім цыкле. Уважлівыя чытачы напэўна памятаюць, што рэакцыя на мае артыкулы была розная. Не бракавала і рэзка адмоўных. Я, кіруючыся прынцыпам роўнасці, не толькі не маю прэтэнзіі да тых, каму мае публікацыі не падабаліся, але і наадварот, лічу, што кожны мае права выказаць сваю рацыю і таму з аднолькавай шчырасцю дзякую ўсім тым, хто так ці інакш хацеў выказацца аб напісаным мною. Дзякую не толькі тутэйшым чытачам, але і замежным, такім, як Нікан і Раеўскі з Аўстраліі, Сенько і Дзейка з Англіі, Карніловіч і Асіповіч з ЗША, якія захацелі напісаць мне вельмі прыхільныя лісты на тэму майго цыкла „Аб дзяржаўнасці і нацыянальнасці". Не меней я ўдзячны і многім знаёмым з Савецкай Беларусі, якія выказалі аб ім свае прыхільныя апініі.

І яшчэ аб чымсьці, што мне не спадабалася. Некалькі аўтараў „Адгалоскаў" не маючы ніякіх аргументаў супраць сутнасці сказанага мною, высунулі „аргумент", што цыкл задоўгі. Нешта такое магло прыйсці ў галаву толькі чалавеку спрошчанаму, такому, які не разумее, што нацыянальная праблематыка гэта альфа і амега нашага існавання. І што тыя гады, калі „Ніва" і БГКТ яе не кранаалі, былі гадамі пустыннымі і для нашага нацыянальнага „я" страчанымі. Горача веру, што знойдуцца ў нашым асяроддзі людзі, якія нацыянальную тэму будуць у далейшым трактаваць як найважнейшую. Знікненне яе са старонак „Нівы" было б пагрозным сімптомам, прадвяшчаючым туберкулёзныя працэсы ў беларускім нацыянальным арганізме. Усе мы, у тым ліку і я, недаразвіты у сэнсе нацыянальнай свядомасці. Як жа мне хацелася б, каб мы хаця ў нейкім там працэнце насілі ў сэрцах той нацыянальны гартунак, які носяць палякі ці рускія. Як жа было б добра, калі б мы, так як гэта робяць нашы суседзі, незалежна ад умоў заўсёды і ўсюды неслі над галавой штандар сваёй моўнай і культурнай самабытнасці. Гэта дзякуючы такой паставе Расія захавала свой нацыянальны твар, нягледзячы на некалькісотгадовае татарскае іга, а палякі не пазбыліся нацыянальнай душы, нягледзячы на стасямідзесяцігадовае зняволенне ў часе перадзелаў Польшчы. Чаму б нам, беларусам, грамадскасці, якая ў Народнай Польшчы атрымала вялікія правы і магчымасці ў развіванні сваёй мовы, культуры, у захаванні сваіх традыцый, не карыстацца ўзорамі, ўзятымі з палякаў і рускіх? Ці ж у варунках свабоды не можам здзейсніць таго, што нашы суседзі здзейснілі ва ўмовах няволі? Калі пры жыцці нашага пакалення загіне тое, што на нашай зямлі існавала на працягу тысячагоддзя, гісторыя нам гэтага не прабачыць.

**Алесь Барскі**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ЯКОЙ БУДЗЕ МАЛІНАЎКА

На ўездзе ў Мінск з боку Брэста пачата будаўніцтва жылога мікрараёна Паўднёвы Захад-5. Яго праект распрацаваны аўтарскім калектывам інстытута „Мінскпраект".

Новы мікрараён, які з'яўляецца часткай жылога масіву Малінаўка, займае плошчу 40 гектараў і разлічаны на 19,5 тысячы жыхароў. Забудова Паўднёвага Захаду-5 будзе праводзіцца буйнапанельнымі жылымі дамамі ў 9, 12, 16 паверхаў з палепшанай планіроўкай кватэр. Будзе пабудавана дзве агульнаадукацыйныя школы, пяць дзіцячых дашкольных устаноў, некалькі прадпрыемстваў культурна-бытавога абслугоўвання, магазін. Тралейбусны і аўтобусны маршруты звяжуць новы мікраён з іншымі раёнамі і цэнтрамі горада. У перспектыве прадугледжана збудаванне станцыі метрапалітэна і хуткаснага трамвая.

## БУЙНЕЙШЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

Буйнейшы ў рэспубліцы конегадоўчы комплекс пабудаваны ў саўгасе-камбінаце „Мір" Баранавіцкага раёна. Ён разлічаны на 700 галоў. У дзевяці канюшнях з радзільнымі аддзяленнямі, даільным цэхам, памяшканнямі для дарошчвання жарабят прадугледжана паточна-цэхавая арганізацыя вытворчасці. Развіваць новую галіну намячаецца па двух напрамках — племянному і прадукцыйнаму, аддаючы перавагу апошняму. У недалёкай будучыні саўгасны кумысны цэх будзе даваць у суткі паўтары тоны карыснага напітку. „Мір" штогод будзе пастаўляць многім гаспадаркам племянных жарабят.

Цяпер ва ўсіх раёнах Брэсцкай вобласці створаны племянныя фермы па развядзенню коней, у асноўным беларускай запражной і тарыйскай парод.

## РОБАТ ПРЫЙШОЎ НА КАНВЕЕР

У кабінах авіялайнераў, на пультах кіравання атамных ледаколаў і электрастанцый працуюць прыборы з маркай Віцебскага завода электравымяральных прыбораў. Пастаўляюцца яны ў дзесяткі замежных краін. За мінулую пяцігодку ў цэхах прадпрыемства ўстаноўлены звыш 120 робатаў і маніпулятараў. Іх распрацоўкай займаюцца спецыяльныя заводскія лабараторыі. Сканструяваная тут тэхніка вырабляецца ўласнымі сіламі. За пяць гадоў эканамічны эфект ад укаранення новай тэхнікі і тэхналогіі, аўтаматызацыі вытворчасці склаў больш як два мільёны рублёў.

У штамповачным цэху нядаўна пачала дзейнічаць рабатызаваная лінія па выпуску сучасных прыбораў. У дванаццатай пяцігодцы намечана правесці карэнную рэканструкцыю. У выніку выпуск прадукцыі павялічыцца ў паўтара раза. Прычым, пачнецца выраб прынцыпова новых мікрапрацэсарных сродкаў дыспетчарызацыі, аўтаматыкі і тэлемеханікі.

## ПЛАТНЫЯ ПАСЛУГІ

Спецыялізаваная служба платных паслуг створана пры многіх арганізацыях меліярацыйнага трэста „Гроднаводбуд". Тут прымаюць заказ на будаўніцтва жылых дамоў, гаражоў, дачных домікаў, склепаў, гаспадарчых пабудоў, калодзежаў. Размешчаныя ў раённых цэнтрах і іншых населеных пунктах ПМК меліярацыі могуць зрабіць таксама капітальны рамонт жылля, перавезці грузы і сельскагаспадарчую прадукцыю, падсыпаць дарогу, выканаць земляныя, асушальныя і тэхнічныя работы.

Розныя паслугі пачалі аказваць насельніцтву таксама многія прамысловыя прадпрыемствы, будаўнічыя і транспартныя арганізацыі, работнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі вобласці. Ужо ў гэтым годзе яны выканаюць заказаў на некалькі мільёнаў рублёў.

## СПОРТ

З перамогай вярнуўся з Канады беларускі гросмайстар Віктар Купрэйчык. Ён набраў аднолькавую колькасць ачкоў, па 8, яшчэ з адным шахматыстам, Артурам Юсупавым, у адкрытым чэмпіянаце гэтай краіны.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## УСЯЛЕННЕ ДУШ

Гэта дзіўная хвароба ўспыхвае звычайна так. Чалавек пачынае атаясамліваць сябе з якім-небудзь скандальна вядомым у мінулым дзеячам і гаварыць, апранацца адпаведным чынам. Так паяўляюцца двайнікі Тэадора Рузвельта і Гары Трумэна, Джозефа Макарці і Джона Фостэра Далеса, розных дамарослых правадыроў, якія пагражаюць „вярнуць веліч Злучаным Штатам" і „выратаваць іх ад камунізму".

На дробных клеркаў іх другое „я" сыходзіць у асяроддзі дамашніх, што выклікае ў тых зусім зразумелы смех і спагаду.

А вось „захварэўшыя" ў службовай абстаноўцы з вышэйшых калідораў улады разглагольстваюць аб „дактрыне Манро ў новых умовах", „вялікай дубінцы", амерыканскім „сусветным паліцэйскім".

Разважныя вучоныя Злучаных Штатаў прыходзяць да вываду, што вытокі хваробы трэба шукаць у даўно мінулых часах. Варыянт аб вышэйшай расе, паводле слоў гісторыка Т. Бейлі, суправаджаў эмерыканцаў з першых дзён калоніі ў Новым свеце. Яны пакутавалі своеасаблівай маніяй велічы, зусім сур'ёзна гаварылі, што з'яўляюцца выбраным Богам народам і валодаюць усявышнім мандатам распаўсюджваць звышвысакародныя „дэмакратычныя інстытуты па ўсім астатнім пагружаным у цемру свеце".

Тагачасныя пілігрымы былі начыста пазбаўлены пачуцця гумару. Многія з іх нават не ўсведамлялі, што ў сапраўднасці з'яўляюцца яўнымі шавіністамі. Яны не цярпелі ніякага намёку на крытыку ў свой адрас. На гэта звяртаў увагу вядомы французскі палітычны дзеяч і публіцыст А. дэ Таквіль (яшчэ ў XIX стагоддзі!).

„Амерыканцы ў сваіх адносінах з іншаземцамі не церпяць, відаць, абсалютна ніякага асуджэння, у той жа час ненасытныя да пахвал".

У старадаўніх пілігрымаў Новага свету „перасяліліся душы", якія бачылі старажытны Егіпет эпохі ўзвядзення пірамід і статуй сфінксаў. Сённяшняе „перасяленне" адбываецца часцей за ўсё ў рамках цяперашняга стагоддзя: з дваццатых, саракавых і пяцідзесятых гадоў і носіць аднабокі характар. У свой час пісьменнік Толкін паказаў у сваіх казках міфічную карту. На ёй абазначаны толькі дзве дзяржавы: СССР і ЗША. Першая — чорным колерам, другая — белым, увесь астатні свет — шэрым. Пры тым робіцца намёк, што Богам выбраныя Злучаныя Штаты павінны ачысціць і абяліць яго.

Хоць такая карціна знікла з падручнікаў для малодшых класаў заакіянскіх сярэдніх школ, у розумах многіх высокапастаўленых амерыканцаў яна па-ранейшаму служыць кіраўніцтвам да дзеяння.

„Усяленне душ" працягваецца. Яно не абыходзіць бокам не толькі ўладу маючых, але і выклікае ў абывацеляў буйны росквіт шавінізму, маніі вялікасці Амерыкі, нецярпімасці да астатніх краін. Ура-патрыёты развязалі ў Штатах сапраўдную істэрыю. Без канца ўспамінаюць пасляваенныя гады, калі ЗША валодалі ядзерной манаполіяй і камандавалі ледзь ці не ўсім светам. Ім усё мроіцца, што варта ўсяліць у душы людзей усякіх трумэнаў і макарці, як адразу вернуцца незваротна мінулыя часы.

**А.А.**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК


Misiewicz Józef, Berezyński rezerwat biosfery, Chrońmy Przyrodę Ojczystą, 1985, z. 6, ss. 65—68.

Powierza Paweł, Rok 1863 na Białostocczyźnie (fragm. pam.), Kierunki, 1986, nr 4, s. 8.

Bendza Marian, Prawosławno-protestanckie tendencje unijne w XVI wieku ze szczególnym uwzględnieniem terenu ziem Rzeczypospolitej, Rocznik Teologiczny, R. 25/1983 r. z. 2, ss. 179—194.

Cebulski Eugeniusz, Początki prawosławia na Ziemiach Zachodnich, Chrześcijanin a Współczesność, 1985, nr 6, ss. 56—61.

Leszczyński Anatol, Struktura społeczna ludności żydowskiej miast i miasteczek dawnego obwodu białostockiego w latach 1864—1914, Biuletyn Żydowskiego Instytutu Historycznego w Polsce, 1984, nr 3/4, ss. 49—70.

Taboryski Michał, Robotnicy żydowscy w ruchu robotniczym Białostocczyzny w latach I wojny światowej, jak wyżej, ss. 83—97.

Jan Siedlecki, Społeczeństwo Brańska w latach osiemdziesiątych XVIII w., Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Warszawskiego, Filia w Białymstoku. Z. 44. Humanistyka. Dział H — Prace Historyczne. T. 8 (1985 r.), s. 29—60.

Michał Gnatowski, Działalność polskich komunistów na Białostocczyźnie w latach II wojny światowej. Jak wyżej..., s. 205—207.

Małgorzata Idźkowska, Problemy współdziałania PPR i PPS w województwie białostockim od sierpnia 1944 r. do stycznia 1947 r. Jak wyżej..., s. 219—248.

Michał Gnatowski, Źródła do dziejów ruchu oporu na Białostocczyźnie w radzieckich archiwach. Jak wyżej..., s. 249—258.

Waldemar Monkiewicz, Józef Kowalczyk; Tragiczne losy Żydów w Białymstoku w okresie okupacji hitlerowskiej. Zeszyty Naukowe, Uniwersytet Warszawski — Filia w Białymstoku. Z. 44. Humanistyka, Dział NS — Nauki Społeczne. T. 8 (1985 r.), s. 85—116.

Jerzy Wasiluk, Udział Związku Walki Młodych w życiu gospodarczym, sportowym i kulturalno-oświatowym Białostocczyzny. Jak wyżej..., s. 171—194.

Jerzy Ochmański, Dawna Litwa. Studia historyczne. „Pojezierze" Olsztyn 1986 r., ss. 227, 1 mapa, cena 500 zł.

Francis Dwornik, Bizancjum a prymat Rzymu. Przekład z francuskiego Marii Radożyckiej. „Pax", Warszawa 1985 r., ss. 132.


П. Байко

## ПАМЯЦІ МАР'ЯНА ПЕЦЮКЕВІЧА

Постаць Мар'яна Пецюкевіча, які памёр у амаль 80-гадовым узросце (нар. у 1904 годзе) 13 верасня 1983 г., нядаўнюю смерць якога адчулі мы як вялікую страту нашай культуры, застаецца жывою не толькі ва ўспамінах. Ён паклаў вялікія заслугі ў даследаванні беларускай народнай культуры на Беласточчыне, шмат добрага зрабіў для яе захавання будучым пакаленням і навуковай яе апрацоўкі. Будучы навуковым супрацоўнікам Тарунскага Этнаграфічнага музея, наладжваў таксама экспедыцыі ў наш край, дзейсна дапамагаў і нашым энтузіястам беларускай даўніны (глядзі: „Ніва" ад 30.X.1983 г.).

Нішто добрае не прападае, добрыя ўчынкі не забываюцца, яны застаюцца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў. Ніжэй друкуем фрагменты вершаваных успамінаў пра незабыўнага Мар'яна Пецюкевіча, менавіта А. Шпакоўскага з Салігорска (БССР) і М. Дварэцкага з Руміі, што каля Гданьска.

Згас сумленны сын планеты,
Што любіў Радзіму дужа...
Толькі згас не для мяне ты,
Дарагі і мудры дружа!

А таму, уцёршы вочы,
Што слязіліся журбою,
Буду я да смерці — ночы
Гаварыць з жывым табою.

Вось і зараз, атрымаўшы
Смутны ліст ад Міраславы,
Я прыпомніў стрэчы нашы,
Твой жыццёвы шлях яскравы,

Па якім ты крок за крокам,
І ў радасці, і ў скрусе,
Прынцыпова, не нарокам,
Шчасце нёс для Беларусі.

Быў ты шчыры, працавіты,
Гаваркі, адукаваны,
Паслядоўны, самавіты (...)
Ты застаўся Чалавекам.
Чалавекам з моцным духам.
І патрэбным нам, як ранне..
Хай зямелька табе пухам,
Незабыўны наш Мар'яне!

А. Шпакоўскі, Салігорск.

* ❋ *

Пакінуў ты верных сяброў
Што шчыра кахалі цябе.
Ты ўпарта да мэты ішоў,
Стараўся не збочыць нідзе.

Радзіўся ў вёсцы Шаўляны.
У дружнай сямейцы ты жыў.
А роднай ідэі адданы,
Нямала клапот перажыў. (...)

Ты памяць у сэрцах
пакінуў,
Мы хочам яе шанаваць.
Змагання Твой след
не загінуў,
Мы будзем яго ўспамінаць!

М. Дварэцкі, Румія.



Рэшткі ад вадзянога млына ў Славічыне Сямяціцкай гміны. Фота М. Шаховіча

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Беларускай вясельнай бяседы нельга ў ніякім выпадку зводзіць толькі да піцця гарэлкі і ежы, хоць і гэтыя элементы адыгрывалі ў ёй істотную ролю. Бяседа гэта была адной з цэнтральных сцэн у вясельным спектаклі, які разгортваўся паводле акрэсленых норм і прынцыпаў. Істотную ролю ў вясельным „тэатры" адгрывалі запарожнікі і таму трэба ім прысвяціць болей увагі. Запарожнікі былі свайго роду „апазіцыяй", сілай незалежнай ад гаспадароў і ад галоўнага вясельнага каардынатара — маршалка. І хаця трымаліся яны незалежна, то нягледзячы на гэта, былі арганічнай часткай вясельнага спектакля. Запарожнікі не толькі стаялі пад вокнамі, але запаўнялі таксама сені, а часта ўціскаліся ў вясельныя пакоі, стоячы даслоўна на паўкроку ад сталоў, за якімі сядзелі вясельныя госці. Былі яны вялікай перашкодай, асабліва для жанчын, якія прыносілі з каморы або са свірана ежу і гарэлку. Жанчыны гэтыя мусілі прапіхацца праз натоўп запарожнікаў, якія кпілі, жартавалі, даціналі, шчыпалі. Нярэдка здаралася так, што вечарам, калі лямпы ледзь свяціліся або і ўвогуле гаслі з прычыны недахопу кіслароду, запарожнікі падкрадалі са сталоў ежу і гарэлку. Выступала гэта асабліва тады, калі вясельныя госці ўжо падпілі і трацілі чуйнасць.

Апрача гэтага запарожнікі мелі права на афіцыйны пачастунак. Калі гаспадары забывалі аб гэтым, запарожнікі патрапілі цэлымі гадзінамі круціць пустыя жорны. Голыя камені, труцчыся адзін аб другі, выдавалі непрыемны гук і яшчэ больш непрыемны пах спаленага. Здаралася, што запарожнікі вырывалі са стрэхі салому або кідалі ў студню сухі навоз, які знаходзіўся на панадворку. Рабілі гэта так доўга, пакуль гаспадары не далі ім водкуп у выглядзе закускі і гарэлкі. У некаторых вёсках быў звычай, што запарожнікі ў пісьмовай форме кіравалі да гаспадара заказ, у якім дамагаліся акрэсленай колькасці гарэлкі і закускі. Трэба сказаць, што былі гэта патрабаванні вельмі высокія. Канчалася, аднак, найчасцей усё гэта бесканфліктова. Гаспадары давалі ім невялікую колькасць ежы і гарэлкі, што запарожнікаў поўнасцю задавальняла.

Бадай што найбольш сцэнічная форма дзейнасці запарожнікаў праяўлялася ў іх песнях. Увесь час вялі яны свайго роду дыялог з вясельнікамі: спявалі песні, якія можна было б падзяліць на тры тэматычныя групы. Да першай групы належалі тыя тэксты, у якіх выступаў панегірычны элемент. Запарожнікі праслаўлялі маладых. Аднак не рабілі гэта з чыстага сэрца. Хацелі такім чынам прыпадабацца гаспадарам, каб атрымаць ад іх шчодры пачастунак.

У другую групу ўваходзілі тэксты іранічныя або сатырычныя, у якіх высмейваліся маладая або малады або абое маладыя. Выступалі ў іх адназначныя намёкі, напрыклад, на стараватасць маладога, на брыдоту маладой або нават на фізічнае калецтва. У такіх песнях рысавалася панурая перспектыва будучага сямейнага жыцця.

У трэцяй групе знаходзіліся тэксты, прысвечаныя маршалку, дружкам, сватам, іншым вясельным чынам. Тут амаль заўсёды выступалі нядобразычлівыя інтэнцыі запарожнікаў. Высмейвалі яны татальна ўсё: і фізічную і разумовую мізэрнасць усіх вясельных гасцей. Патрапілі запарожнікі давесці дружку ці сваньку нават да слёз. Запарожніцкая апазіцыя мела на гэта права і гэтым правам поўнасцю карысталася.

А. Баршчэўскі

(Працяг са стар. 1)

# З ПАЕЗДКІ Ў БССР



## ПАКЛОН ВІЦЕБСКУ

чае „Энцыклапедыя“, — у летапіснай „Аповесці мінулых часоў“ пад 1021 годам, калі ідзе гаворка пра ўладанні полацкага князя Брачыслава Ізяславіча. Аднак на картах старажытнай Беларусі, для прыкладу, на карце рассялення крывічоў, пад Віцебскам указваецца год 974 як дата яго заснавання. Гэта пацвярджае легенда, запісаная ў летапісе з XVIII ст. Цяперашні Віцебск даўней называлі крыху інакш: Видбеск, Видебск, Витепеск, Витьбеск. Гэта таксама сведчыць аб яго старажытнасці. Дык па праву віцябляне адзначалі **тысячагоддзе** свайго горада ўжо больш дзесяці гадоў таму назад.

Няма практычнай магчымасці, каб у некалькіх сказах перадаць незвычайна багатую і бурлівую гісторыю гэтага горада, рассеўшагася на берагах Дзвіны і Віцьбы. Ведаць, аднак, варта, што існавала ўдзельнае Віцебскае княства, што легендарны Аляксандр Неўскі быў жанаты з дачкою віцебскага князя Брачыслава Васількавіча, што ў Віцебску княжыў таксама і Ягайла Альгердавіч, пазнейшы кароль Польшчы — Уладзіслаў, што дружыннікі з Віцебшчыны прымалі ўдзел у Грунвальдскай бітве 1410 года, а ў 1623 годзе праваслаўныя гараджане Віцебска, пры падтрымцы жыхароў Магілёва, Оршы, Полацка і Вільні, узнялі тут бунт супроць уніяцкай духоўнай іерархіі, забілі ды выкінулі ў раку Дзвіну ўніяцкага епіскапа Іясафата Кунцэвіча і іншых найбольш ненавісных уніяцкіх парохаў. Польскі кароль Зыгмунт III крывава адпомсціў віцяблянам за гэтую іхнюю смеласць. Горад практычна быў знесены з паверхні зямлі. Адабралі яму магдэбургскія правы, якія Віцебск атрымаў у 1597 годзе. Горад занепаў, але не памёр. Ужо ў другой палавіне XVIII ст. стаў ён другім па велічыні (пасля Магілёва) горадам Беларусі. Ад першага падзелу Рэчыпаспалітай (1772 г.) апынуўся Віцебск у саставе Расіі. Напярэдадні першай сусветнай вайны налічваў ён ужо звыш 100 тысяч жыхароў. У Айчынную вайну разбураны гітлераўцамі амаль у 90 працэнтах, з рук фашыстаў загінула больш за сто тысяч яго жыхароў...

Мяне пасялілі ў самым цэнтры, ля даўжэзнай вуліцы Леніна. Была гарачая раніца 3 ліпеня 1986 года. Я рашыў запасціся харчамі. З папярэдніх маіх пабывак у Савецкім Саюзе я ведаў, што прадуктовыя крамы называюцца тут „гастраномамі“, але ў гэтых гастраномах хлеба не прадаюць. Хлеб прадаецца асобна у магазінах „Булачная“. Пакупнікам гэта не надта выгодна, але для захавання гігіены вельмі ж карысна. Затое ў гэтых жа „гастраномах“ ёсць выдзеленыя секцыі з рыбай, мясам і мяснымі прадуктамі.

Прадуктовы магазін, гэты „гастраном“, аказаўся далекавата, цераз два прыпынкі на аўтобусе або тралейбусе. („Гастраном“ што тут па-суседску, — апраўдваліся мае гаспадары, — якраз паставілі на рамонт“). Я выбраўся пехатой. Давялося перамерыць амаль ад плошчы Свабоды да плошчы Перамогі, дзе пад неба, быццам магутныя пераможныя стрэлы, узвышаюцца бліскучыя ў сонцы тры штыхі ад салдацкіх вінтовак. Мой лепшы віцебскі сябра Уладзімір Пятровіч, родам з Віцебшчыны, паясніў мне, што будаўнікі гэтай плошчы, пад кіраўніцтвам архітэктараў А. Данілавай і Л. Эйнгорна, тут, у Віцебску, упершыню выкарысталі ўмоўны кшталт салдацкага штыха, каб увекавечыць непахісную барацьбу з лютым ворагам і перамогу над ім. Пасля прачытаў я ў даведніку пра Віцебск і яго наваколле, што віцебская плошча Перамогі займае амаль 17 гектараў і з'яўляецца адной з буйнейшых плошчаў у цэлай краіне Саветаў. Цераз яе праходзяць і тут крыжуюцца дзве асноўныя аўтамабільныя магістралі горада: усходне-заходняя — з Масквы ў Рыгу, і паўднёва-паўночная — з Кіева ў Ленінград.

Вуліца Леніна, якая таксама перасякае гэтую плошчу, крута падымалася на ўзгорак. Я не спяшаўся, хаця побач імчаліся безупынна аўтамабілі ды іншыя сродкі гарадскога транспарту. Па дарозе трапіўся магазін з шыльдай „Спартыўныя тавары“. На дзіва для мяне, ля гэтага магазіна нейкія людзі рыхтавалі да паездкі новенькі матацыкл. Я заглянуў у сярэдзіну. Магазін вялізны, са шматлікімі секцыямі, у якіх, сапраўды, прадаюцца розныя спартыўныя тавары. Матацыклаў многа і розных марак, у тым ліку і замежныя, чэшскія, але пераважна свае, таксама і мінскага вырабу. Плаці грошы, значыць, адбівай талончык у касе, запраўляй бензінам ды імчыся ў свет далёкі! Я заўважыў, што асаблівай папулярнасцю карыстаюцца там матацыклы з каляскай. Іх цэнаў я не запамятаў, але асталося агульнае ўражанне, што яны недзе амаль напалавіну таннейшыя, чым у Польшчы.

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

# ПАРНАСІК

чытальніцкая літаратурка на негарантаваных палях

## НЕ МІНАЙ

Здольны ён і кахаць, і караці;
Для сяброў — сябр, чужынцам чужы.

Слаўны ён мужнасцю, чэсцю.
Да нікога не йшоў на паклон.
Хто прыйшоў да яго з сваёй месцю —
Панёс гэтага краю праклён.

Гэты край жыў і вечна жыць будзе,
Загартованы ў шквальным агні,
З непахіснаю воляю людзі,
Людзі песні, цяпла і красы.

Край дарогаў, сцяжынак цярністых,
Край шырокіх палёў і лясоў,
Край азёраў і рэк серабрыстых,
Край адважных і верных сыноў.

Не мінай, загляні на Падлессе.
Ўсёй душой ты пранікніся ім —
Тут магілы па полі, па лесе.
Аб якіх грэх забыці жывым.

Кроўю нашай зямелька прамыта,
Як расою духмяны бутон.
Аб той долі далёкай, забытай
З курганоў адзываецца звон.

Плыве вецер пявучы ад рэчкі,
Аксамітнай травою журчыць.
Запытай у Грабоўкі, ў Бацечкаў,
Ці мінулае можна забыць?

Не прасілі пахвал, ні падзякі
Да апошняй хвіліны жыцця.
Каб цвілі на зямлі людзі й макі,
Трэба сэрцу цяпла й пачуцця.

Не мінай, загляні на Падлессе,
Сваю душу раскрый перад ім —
Пад блакітным яго паднябессем
Дзень і ноч звініць вернасці гімн.

**У. Бярозка**




# КРАМОЛЬНІКІ

Сёння нам немагчыма нават уявіць, які смяротны жах у XIII—XIV стагоддзях паўсюдна выклікала з'яўленне татарскага войска, нават у надняволенай татарам Галіцка-Валынскай Русі. Асабліва яскрава гэта відаць з запісаў сучасніка і непасрэднага сведкі тых падзей — аўтара Галіцка-Валынскага летапісу. Чытаем там пад 1283 годам, што „праклятыя і беззаконныя“ татарскія ханы Целябуга і Нагай у каторы ўжо раз зноў загадалі князям рускім („заднепреиским“) і галіцка-валынскім („волынским“) ісці разам з імі на Польшчу.

„Калі Целябуга наблізіўся да ракі Гарыні, сустрэў яго князь Мсціслаў Данілавіч з пітвом і падарункамі. Адтуль той пайшоў праз Крамянец на Пераміль. І там сустрэў яго на рацэ Ліпе князь Уладзімір Васількавіч з пітвом і падарункамі. Потым каля Бужковічаў дагнаў іх з пітвом і падарункамі князь Леў Данілавіч. Затым яны выйшлі на Бужкаўскае поле і зрабілі агляд сваіх войск. Князі спадзяваліся, што іх пераб'юць і гарады захопяць“, — запісаў летапісец.

Але ў Целябугі, відаць, не было такіх намераў. Каля 20 снежня 1283 г. ён накіраваўся ў сталіцу Валынскага княства, горад Уладзімір, і татары „тварылі ў ў горадзе вялікі гвалт і парабавалі незлічонае мноства дабра і коней. І гэтак беззаконны Целябуга пайшоў у Польскую зямлю. Але ж іншыя татары затрымаліся каля горада Уладзіміра адпасвіць змардаваных коней. Яны спустошылі Уладзімірскую зямлю. Не дазвалялі выязджаць з горада па харчы. Калі хто выязджаў, то адных забівалі, другіх лавілі, іншых абрабоўвалі і забіралі ў іх коней. І памерла ў горадзе падчас аблогі... незлічонае мноства“.

Не лепшы лёс спаткаў уладанні князя Льва Данілавіча. Нагай і Целябуга, вяртаючыся з няўдачлівага свайго паходу на Кракаў, запыніліся каля горада Львова. „І стаялі яны ў зямлі Льва два тыдні, харчаваліся, не ваявалі, але не дазвалялі выйсці з горада па харчы. Калі хто-небудзь наважыўся, то адных забівалі, другіх у палон бралі, а некаторых, абрабаваўшы, пускалі голымі і тыя паміралі ад марозу, таму што зіма была вельмі вострая. Так яны спустошылі ўсю зямлю“.

На дадатак татарскія орды прынеслі з сабою нейкую пошасць, мабыць, халеру або чуму. Па Польшчы пракаціўся вялікі паморак на людзей „изомре их бещисленое множество“, — падае летапісец. А ў наступным годзе тая ж зараза ахапіла Галіцка-Валынскую Русь.

І здавалася, што гэтаму няшчасцю не будзе канца, бо неўзабаве, у 1287 годзе, ханы Целябуга і Алгуй са сваімі ордамі рабаўнікоў зноў з'явіліся і пагналі ўсіх князёў галіцка-валынскіх з іх дружынамі здабываць і рабаваць Малапольшчу.

Таму і не дзіва, што з княстваў Галіцка-Валынскай Русі насельніцтва разбягалася, куды толькі змагло і перш за ўсё ўцякала ў Вялікае княства Літоўскае, на якое татары баяліся нападаць. З Валынскага княства людзі ўцякалі і сяліліся на тэрыторыі сённяшняга Падляшша, асабліва ў Берасцейскай і Дарагічынскай землях, куды таксама не даходзілі татарскія орды, відаць, улічвалі, што гэта колішнія ўладанні вялікага князя літоўскага.

Землі Берасцейская, Мельніцкая, Дарагічынская, Бельская, Камянецкая зноў становяцца самымі людным і самымі заможнымі ў гэтым раёне. І не дзіва, што за іх пачынаецца грызня паміж галіцка-валынскімі князямі. Перад сваёй смерцю князь Уладзімір Васількавіч завяшчаў свае ўладанні дваюраднаму брату князю Мсціславу Данілавічу, але якраз на землі Берасцейскую, Камянецкую і Бельскую квапіўся князь холмскі Юрый Львовіч. Яшчэ пры жыцці Уладзіміра ён дамагаўся ад яго іх у спадчыне. Уладзімір жа, ужо будучы на ложы смерці, выцягнуў з-пад сябе жменю саломы і загадаў сказаць Мсціславу: „Калі б я табе, брат мой, даў гэты вехаць саломы, то і яго пасля мае смерці ты нікому не давай“.

Аднак, калі 10 снежня 1289 г. Уладзімір Васількавіч памёр (мабыць, на рака ніжняй губы, як можна меркаваць па летапі-



Народныя спявачкі з Трасцянкі Анна Максімчук і Анна Стахвюк. Фота з архіва.




## ЗАЛЮЛЮКАЙ, БАБУСЯ, ДЗІЦЯТКА НА СОН

На трыццацігоддзе тое Беларускага таварыства і „Нівы" нашай паслухайце, людкове, во што:

Алесь Барскі — гэта бог (ад малое літары, бо ж бог з яго не хрысціянскі).

Аўрора — гэта божая кароўка (ёсць такое стварэнне).

Мікалай Панфілюк ад перапуду зацясаўся ў паштовую скрынку нумар 149.

Пан жа Гайдук рушыў досвіткам на раку русалак палохаць, з колатам у руцэ ды з невадам за плячыма.

Міра Лукшанка прыплюшчыла вочкі і маўчыць маўчком маўклівым, бо тут нешта ёй не даспадобы. Яе сардэчныя апавяданнейкі сумуюць разам з ёю.

Юрка (галоўны!) пачапіў сабе на дзвярах шыльду са словамі: „Даволі з мяне!", а ніжэй, дробненька: „Колькі ж чалавек можа? Баста!!"

Сакрат Яновіч паімчаў на Пегасе ў аблокі, каб тэму там лавіць сабе. А за ім пагналіся на вогненных калёсах Швед з Надзяй... У сакратарыяце апынулася Сакратарачка адной-адзінюсенькай, і дзяўчына цяперка намагаецца ўсім дагадзіць як толькі дасць рады, верацяніцай яна ўецца, каб адно поспех быў.

Тым часам на калідоры „Нівы" вэрхал не абы-які, дзяруцца за тое, чый верх будзе. Задрыпанец з Міхаськом Хмялеўскім, абодва натурыстыя, бы пеўні.

Урэшце дапаў да сакратарыята сам асабіста Віктар Рудчык, зморaны векчечнай калатнечаю, ды бубніць у свой бубен. Яму каб крыху вады сцюдзёнае глынуць, бо дрымоцце бярэ, кожнаму, хто тут, вочы самыя зліпаюцца чамусьці.

Так, дарэчы, і здарылася: усе покатам паснулі, быццам пабітыя, або з ворыва вярнуўшыся. І ніхто пасля не ведаў, як доўгі сон іхны быў. І нават сумненне — а ці яны гэта былі? А мо іншыя якія за іх так падаліся? Усяляк сёння здагадваюцца пра той сон у рэдакцыі.

Ажно загрымеў-закапыціў каля „Нівы" табун новага часу, у грукаце якога нават мёртвы не злежаў бы, устаў бы, ды вочы прадраў бы на свет белы. Ого, галоп коней! Прачнуліся нашы „нівaўскія" небажаняты, усхапіліся, і давай азірацца, і давай варушыцца. А ўсё так змянілася наўкола, што хоць ты вер-не вер! А што з беларускім нашым здарылася, а чаму яно такое — і заморанае, і хілае? Ах Божа ж ты мой, Божа! Усё роўна бы Месяц той на Сонца напоўз, так пацямнела ўсё ў нашай беларускай культурнай рэчаіснасці, а час і эпоха крычаць нам: ратуйцеся, пакуль зусім не позна!

Я свой вам чалавек, дзеткі! Таму і не павінен саладзіць вам каб пра розум не забыліся.

**С.О.С.**

**МНОГАЕ, БРАТОК, ГУБЛЯЕШ, КАЛІ "Ніву" НЕ ЧЫТАЕШ!**

су — М.Г.), Юрый Львовіч захапіў Берасцейшчыну, Камянеччыну і Бельшчыну „и вьеха в Берестий и нача княжити в нем". Мсціслаў пачаў усюды скардзіцца на Юр'евы свавольствы, але ніякія просьбы ды грозьбы не ўздзейнічалі на захопніка. Толькі тады, калі Мсціслаў паслаў у Сарай узводзіць на яго татарскую арду, Юрый уцёк, абрабаваўшы ўсё дачыста „и не остася камень на камени в Берестьи, и в Каменци и в Бельскии", — паведамляе летапісец.

Нашчасце, Мсціславу ўдалося запыніць на дарозе свайго пасланца ў Сарай, але ён і сам не лепш за татараў, бязлітасна расправіўся з жыхарамі Бярэсця, Камянца і Бельска за іхнюю прыхільнасць Юрыю. Спачатку, мабыць, намерваўся іх пакараць смерцю, а потым, як падае Галіцка-Валынскі летапіс наклаў на іх „лоўчае за іхнюю крамолу, каб не глядзець на іх кроў".

Гэтая сярэдневяковая кантрыбуцыя была вельмі цяжкая. Жыхары Берасцейшчыны, напрыклад, з сотні чалавек абавязаны былі даваць князю: па два лукны мёду (лукно = 10 пудоў = 160 кг), дзве авечкі, сто пяцьдзесят моткаў лёну, пяць цэбраў аўса і пяць цэбраў жыта („цэбар", мабыць, тое самае, што крыху пазней называлі „чвэрцю", а „чвэрць" аўса = 40 кг, жыта = 72 кг — М.Г.) і па 20 курэй. На кожную сотню гараджан Мсціслаў наклаў падатак 4 грыўні кун (1 грыўна кун = 50 г срэбра — М.Г.). Таксама былі пакараны жыхары Камянецкай і Бельскай зямель.

З гэтай верагоднай Мсціслававай „лоўчай" граматы вынікае шэраг вельмі істотных вывадаў. Па-першае, да Берасцейшчыны, Камянеччыны і Бельшчыны князь Мсціслаў Данілавіч аднёсся варожа не толькі таму, што яны прыхільна прынялі ўладу Юрыя, але таксама і таму, што яны не былі „вотчынай", гэта значыць: бацькаўшчынай князёў галіцка-валынскіх, а ўсяго толькі адарванай ад Вялікага княства Літоўскага зямлёй, таму, паводле меркаванняў князёў галіцка-валынскіх, яе жыхароў можна і трэба трымаць востра, як чужынцаў-нявольнікаў. Па-другое, жыхары гэтых зямель не хацелі падпарадкоўвацца Валыні, выкарыстоўвалі кожную нагоду, каб выйсці з-пад яе ўлады; таму між іншым Мсціслаў мусіў „посадити засаду" гэта значыць паставіць гарнізон сваіх дружыннікаў у Бярэсці, Камянцы і Бельску. Па-трэцяе, насельніцтва Берасцейшчыны, Камянеччыны і Бельшчыны прыхілялася да таго з князёў галіцка-валынскіх, які не вёў варожай палітыкі да Вялікага княства Літоўскага, унаследаваў землі князя дарагічынскага Шварна, а такім якраз быў князь холмскі Юрый Львовіч. Па-чацвертае, якраз гэтая „лоўчая" Мсціслававa грамата — найлепшы доказ высокага ўзроўню гаспадаркі на Берасцейшчыне, Камянеччыне і Бельшчыне, бо ж, вядома, і нужынцы бяруць там, дзе ёсць што ўзяць.

На жаль, абкладзеныя непасільнай кантрыбуцыяй берасцяне, камянчане і бяльшчане не маглі адклікацца за дапамогай да вялікіх князёў літоўскіх, бо ў той час Вялікае княства Літоўскае перажывала цяжкое ўнутранае перасіленне — цэнтральная ўлада ў ім паслабела. Нейкія невядомыя бліжэй два князі-браты Будзікід і Будзівід аддаюць князю Мсціславу свой горад „Ваўкавыск, каб з імі захоўваў мір". Да гэтага, мабыць, іх прымусіў востры наступ крыжакоў на паслабеўшыя землі Вялікага княства Літоўскага.

Канчатковае пакарэнне крыжакамі Прусіі і Яцвягіі ў 1283 г. ды паслабленне моцы Вялікага княства Літоўскага дазволіла ім заатакаваць Гарадзенскае княства. Упершыню яны ўдарылі на паўночна-заходнюю частку Гарадзеншчыны (тэрыторыя сённяшняй Аўгустоўшчыны і Дуброўшчыны) у 1284 г.

Напад быў неспадзяваны. Стаяў сухі і ветраны жнівень. Крыжацкая армія, ў некалькі соцень коней лёгка адолела высахлыя багны ля вытокаў ракі Бобры, пералавіла ды перабіла або перавязала ў нявольнічыя путы ўсіх, хто ім трапіўся на шляху. Затым падыйшла да Нёмана, загарнула рыбацкія ды перавозніцкія лодкі і судны, загадала збіць плыты і пераправілася вышэй Горадні на правы бераг Нёмана. Калі гарадзенцы зведалі пра нашэсце новага ворага, ён ужо набліжаўся да сцен горада. Разгарэўся бой. Але, мабыць, нечаканасць нападу ды ўменне крыжакоў здабываць крэпасці зрабілі сваё: Горадня была ўзята, выразана да нагі, абрабавана ды спалена. Захопнікі са знакам крыжа на сваіх плашчах асабліва квапіліся на багатыя гарадзенскія цэрквы: залатыя і срэбныя крыжы, даразахавальніцы, лампады, аклады ікон і кніг для набажэнства — хапалі і дзёрлі ўсё спрытна....

І так, першы ўдар крыжакоў на беларускія землі быў для нас трагічны.

**Мікола Гайдук**

# ДАВЕДНІК „БЕЛАВЕЖЦАЎ“

У Міхася Маліноўскага ў Бельску я чытаў „Даведнік польскіх сучасных пісьменнікаў, 1944—1970“, у якім былі звесткі і пра нашых вядомых „белавежцаў“ — Саката Яновіча, Аляксандра Баршчэўскага, Яна Чыквіна. Відаць, толькі таму пра іх трох, бо яны ўжо тады былі членамі Саюза польскіх пісьменнікаў, так сказаць, афіцыйна прызнанымі ў літаратуры.

Але, вось у таго ж Маліноўскага прагледзеў я і апошняе выданне такога даведніка „Слоўніка польскіх пісьменнікаў“, надрукаванага ў 1981 г. ў Варшаве. У ім я ўжо не знайшоў ані слова нават пра Яновіча ці Барскага. Як гэта тады разумець? Жывуць жа нашы пісьменнікі ў Польскай дзяржаве і, адначасна, як бы не прызнаюць іх...

А хацелася б мець у сваёй бібліятэцы даведнік нашых, „белавежскіх“, паэтаў і пісьменнікаў. Ужо час, за мінулыя трыццаць гадоў беларускага руху на Беласточчыне то і літаратуры сваёй мы прычакалі, як ні казаць. Можа — Беларускае таварыства нешта ўчыніла б у гэтым напрамку?

**Андрэй Гаўрылюк**

**Ад рэд.:** Скарочаны варыянт даведніка „Белавежы“ быў апублікаваны ў дваццатую гадавіну гэтага літаратурнага аб'яднання, і знаходзіцца ён ва ўсіх гарадскіх ды местачковых бібліятэках Беласточчыны (так, прынамсі, запэўнілі нас у Ваяводскай бібліятэцы). Яго выдаўцамі былі Літаратурны клуб Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку і Беластоцкая гарбарня. Так што ёсць на чым абаперціся ў выпадку рэалізацыі прапанаванай Андрэем Гаўрылюком выдавецкай ініцыятывы, якая, сапраўды, вельмі своечасовая і патрэбная.



**Уладзімір Тарасюк кідае кулю (у спартакіядзе кааператыва інвалідаў „Будучыня“, што адбылася не так даўно ў Самулках ля Нарвы). Фота З. Пракапчука.**

## ПАДПІСКА НА САВЕЦКУЮ ПРЭСУ

Зацікаўленых падпісчыкаў паведамляем, што ўжо прымаецца падпіска на савецкія газэты і часопісы, якую можна зрабіць ва ўсіх аддзелах РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“. Установы, грамадскія арганізацыі, школы і прадпрыемствы Беласточчыны і суседніх ваяводстваў могуць афармляць падпіску ў бліжэйшых аддзелах РСВ. А індывідуальныя падпісчыкі маюць магчымасць афармляць падпіску дадаткова яшчэ і ў клубах „Руху“, а таксама ў некаторых кіёсках. У Беластоку падпіску прымае I Аддзел „Руху“ на вул. Капэрніка 93, тэл. 227-85.

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na Wasz artykuł („Niwa” nr 29 z dnia 20.VII.1986 r.) uprzejmie informujemy, że sklepy naszego przedsiębiorstwa nie rozprowadzają części zamiennych do rowerów. Ich dystrybucją zajmuje się sieć handlowa WUHW i GS „Samopomoc Chłopska”.

Odnośnie łańcuchów do motorowerów, to ich sprzedaż uzależniona jest od wielkości dostaw z Hurtowni Rejonowej P.P. POLMOZBYT w Olsztynie. Ilości, które otrzymujemy nie zabezpieczają w pełni potrzeb wszystkich klientów, tym niemniej istnieje możliwość ich zakupu w naszych sklepach w Bielsku Podlaskim, Siemiatyczach czy Księżynie k/Białegostoku.

Przedsiębiorstwo Państwowe
Polmozbyt w Białymstoku
Z-ca Dyrektora d/s Handlowych
**inż. Henryk Urban**




## НЯПРАЎДА НА НЯПРАЎДЗЕ

Ужо нямала разоў пісалася, якою павінна быць наша „Ніва“.

„Ніва“ будзе такою, якімі будуць яе карэспандэнты. Калісьці быў у нашай мясцовасці адзін такі чалавек, Торбікаў называўся ён. Нехта на вясковым сходзе тады пачаў гаварыць, што прачытаў у газетах, дык той Торбікаў перабіў яго: не верце газетам! Усе здзівіліся: як жа гэта так, каб у газетах ілгалі?!

А цяпер я сам бачу па нашай „Ніве“: няпраўды тае ў ёй хоць ты адбаўляй! Вось Юрка Ляшчынскі піша пра семяноўскае вадасховішча зусім не так, як ёсць. Відаць, пачуў ён ад кагосьці, што пад тое вадасховішча будуць заліты вадою сенажаці пятага і шостага класаў. А вядома, што ў нас былі так званыя прагрэсіі, у выніку якіх гаспадары ў час класіфікацыі рабілі ўсё магчымае, каб занізіць тыя класы (каб менш падаткаў плаціць). Такая праўда.

Дзе трэба было, там зрабілі тады меліярацыю — у вёсках Рудня і Боўтрыкі. Засеялі культурнай травою, накосы якой былі вялікія. Заліўныя сенажаці таксама давалі многа сена, таму што наносіла на іх з палёў у разводдзе шмат усякіх угнаенняў.

Альбо пра „блёкі“ — на самай справе пабудавалі іх на добрых землях, нават чацвертага класа. А хляўкі дык і на зусім гароднай зямлі, лепшай над лепшымі! Агароды блёкаўцам далі затое — на марнай, на пясках, і некаторыя не схацелі браць іх. Гэта яшчэ адна праўда.

— Якая зямля занята пад вадасховішча — кожны ў нас аж задобра ведае. І што „блёкі“ — не чатырохпавярховыя, а двухпавярховыя, дык таксама кожны бачыць. І што пад вадою будзе не 150 квадратных кіламетраў, а 32 кв. км. А яшчэ наконт выселеных вёсак. Піша Ляшчынскі: хутар Бахуры. А па-праўдзе, не хутар, а два хутары. І Семяноўка — не адзін хутар, на вываз ідзе шмат хутароў. І вёска Гарбары таксама не пад вадою ж застанецца жыць далей... Усе будуць перасяленыя, або ўжо перасяляюцца. Вельмі лёгка гаварыць, што будаваць дазваляецца толькі на землях шостага класа і на так званых эрзэтах (на якіх ужо адно лес садзіць можна). Гавораць, што на аднаго грамадзяніна не выпадае нават і паўгектара ворыва. І што мы бачым: у Бандарах і ў Гарбарах пабудаваны гатэлі ды „блёкі“ на найлепшых землях, хоць блізка іх можна было б знайсці і тыя слабыя арэалы, пяскі. Ці ж не кпіна тут якая? Так у нас і робіцца — слова сабе, а ўчынкі сабе пайшлі не тою дарогаю. І ўсё тлумачаць, як цемнаце якой, што „мора“ гэтае на пустаполлі, на пясках ды на неўрадлівіцы запланавана і пабудована, во, хутка ўжо будзе... Ой, Ляшчынскі ты, Ляшчынскі!

**Хведар Хлябіч**

халоўскім ліцэі, — паінфармавала мяне Марыя Грыка. — Вельмі здольны быў.

Ліцэй Васіль закончыў, здаецца, у 1960 годзе. Тады яшчэ ў Міхалове навучалі беларускай мове. Але і з дому Васіль Самойлік вынес знаёмства бацькоўскай і матчынай гаворкі, якой і зараз карыстаюцца між сабою тутэйшыя людзі. Толькі да прыезджых дзяцей, якія ў Юзафове, у сваіх бабуляў і цёцяў, праводзяць канікулы, адзываюцца яны ўжо па-польску.

Згаварыліся мы аб гэтым, і Станіслаў Врона, каталік, адразу пачаў карыстацца беларускай гаворкай.

Калі загінуў бацька, студэнту Васілю Самойліку аставалася яшчэ чатыры гады вучыцца. А маці што магла яму дапамагчы, хаця і быў ён у яе адзіны сын? Ды і яе хутка не стала.

— Наведваецца ён часам сюды? — запытаў я ў сялян.

— А да чаго тут прыязджаць? — адказаў мне Станіслаў Врона. — Нават следу не асталося ад яго бацькаўшчыны. Зямля перайшла пад Валілаўскі ПГР, і ён заараў усё да глянцу.

—Не, там яшчэ крыху камення ад фундаментаў захавалася, — запярэчыла Марыя Грыка. — Вось там, на хутары, — паказала яна ў бок Пілатоўшчыны.

— Хутка дык і цэлага Юзафова ўжо не будзе, калі старыя... — тут Станіслаў Врона на момант спыніўся — такія, як я, паўміраюць. Вось ужо пустыя хаты стаяць...

Сапраўды, родная вёска пана міністра для вока вельмі ж прыгожая, ала жыць у ёй труднавата. Толькі дзе, пры якіх іншых палітычна-грамадскіх умовах бедная сірата з такой глухой вёсачкі, без падтрымкі багатых дзядзькоў мог бы прабіцца аж у міністры? Варта падумаць аб гэтым.



**Вёска Юзафова ў гміне Гарадок, дзе нарадзіўся міністр фінансаў, Васіль Самойлік, прысела на паляне між лесам.**

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# Зорка

## старонка для дзяцей



Удзельнікі конкурсу беларускай песні з Райска з настаўніцай Людмілай Паўлік.
Фота М. Хмялеўскага.

## Для самых маленькіх

Генрых Кутас

### ВЕРАБЕЙЧЫК

— Верабейчык-хлапчучок,
Хто падзёр табе бачок?

— Васька-кот, як заўсягды.
У мяне з ім нелады!

Верабейчык-хлапчучок,
Хто падзёр табе хвасток?

— Наступіў на хвосцік мой
Коля дужаю нагой.

— Верабейчык-хлапчучок,
Ты нашто ад мамы ўцёк?
З мамай лепшай будзе доля:
Не пакрыўдзіць кот і Коля.

### ДОЖДЖ

Што ты робіш,
дождж плаксівы?
Хопіць шыбы залiваць!
Вылівайся лепш на нівы...
Праз цябе мне не відаць,
Як гайдаецца таполя,
Як магутны волат-дуб
За ваколіцай у полі
Мые свой зялёны чуб.

### РАК

Ну і майстар рак рачны!
Шые рыбам ён штаны,
Добра раку ганарыцца —
Клюшні ў рака,
як нажніцы.

Вісарыён Гарбук

## ЗАЎВАЖАНАЯ ПАМЫЛКА

Я рашаў задачы. Засталася адна. Думаў — так сабе, звычайная. Як ні біўся — не паддаецца.

З мукі спяклі хлеб. Па кілаграме буханка. Трэба даведацца, колькі атрымалася буханак, калі прыпёк склаў восьмую частку.

Варта мне дайсці да слова „прыпёк", як успаміналася пагорак, дзе я загараў на сонцы, калі да бабулі ў вёску ездзіў у госці.

На пагорку раслі кветкі. Як прыемна яны пахлі! І бабуля гэтыя кветкі любіла. Яна сушыла іх, і ў яе хаце заўсёды пахла чаборам!

На тым пагорку ўсё аж звінела і стракатала. А аднойчы ў траве амаль перад самым сваім тварам я ўбачыў яшчарку. Сама зялёная, вочкі рудыя, з залацістым абадком. Мы ўтаропіліся адзін на аднаго і замерлі. Толькі з рота ў яшчаркі языгчок выскакваў. Мабыць, ад здзіўлення. Чорны, толькі дзіўна раздвоены. Выскакваў і хуценька хаваўся. Мабыць, такім языком лягчэй мушак лавіць.

Эх, каб зноў лета! Забрацца б на той самы пагорак, на самы прыпёк! Бабуля смяялася, што мяне дома ніхто не пазнае, такі чорны зрабіўся ад загару...

Пачуўся тэлефонны званок. Я схапіў трубку.

— Санька, гэта ты?! Вось добра, што пазваніў. У цябе задача з прыпёкам атрымалася? Не? І ў мяне — не. Што? Да цябе? Лепш ты прыходзь.

Санька не прымусіў чакаць сябе.

— Чытай задачу? — загадаў ён мне.

— Ды я сто разоў яе чытаў.

— Ну, давай я. Значыцца, колькі атрымалася буханак, калі прыпёк... Эх, і люблю я гэты самы прыпёк... — Санька пракаўтнуў слінкі. — Калі мама пасылае мяне па хлеб, я па дарозе ўсю буханку абʼем. Такія смачныя гэтыя падгарэлыя скарынкі! А нядаўна, — Санька засмяяўся, — прыехалі госці, я пабег у магазін, усяго накупіў, а пра гасцей забыўся. Сеў пад дрэвам, што ў парку, і давай скарыначкі абломваць.

— І я іх люблю, — сказаў я. — Асабліва, калі добра падгарэлыя. Усё, што ў маці падгарае, мне пакідаецца...

— Дык што ж такое прыпёк? — пачаў разважаць Санька. — Мабыць, добра падсмажаныя, падгарэлыя скарынкі...

Значыцца згарэла мука. А калі мука згарэла, уся яе вага ў чад ператварылася. У звычайны дым.

— І на адну восьмую частку зменшылася вага мукі, якая ў задачы, — падтрымаў я Саньку. — Усё проста. Хуценька падлічым.

— А ў падручніку ў адказе больш, — сказаў здзіўлены Санька.

— Фю! — аж свіснуў я. — Што ж гэта такое?

— Нават калі пень згарае, ад яго жменька попелу застаецца! — гарачыўся Санька. — Памятаеш, у лагеры наша вогнішча?

Я моўчкі кіўнуў галавой і сказаў:

(Працяг на стар. 10)

АПАВЯДАННІ АБ ПРЫРОДЗЕ

Юрась Касцюк

## НА ЗАМЧЫШЧЫ

У лодцы нас шасцёра. Плывем па азёрнай роўнядзі да замчышча. Лодка паволі ўваходзіць у вузкую затоку. Паабапал яе, на пахілых берагах, хваёвы бор. Аж да самай вады падступаюць кучаравыя купкі лазы і вольхі, а там, дзе канчаюцца гэтыя спрадвечныя суседзі беларускіх азёр і рэк, па грудзі ў вадзе стаяць чараты.

Затока звужаецца яшчэ больш. Хлопцы задуменна прымоўклі, каб не парушыць урачыстага спакою, зачараванай цішы. Не заўважылі, як лодка ткнулася носам у пясчаны бераг. Вылазім з яе і ідзем па лесе. Хвойнік неўзабаве канчаецца. За прасекай — царства бяроз. Стройныя, кучаравыя, беластволыя, адна пад адну, яны заварожваюць сваёй прыгажосцю, настройваюць на паэтычны лад.

Пазіраем угору. У зялёных вокнах — сінь неба. І дзе-нідзе вандроўніцы-хмаркі. Адчуванне такое, быццам бярозкі вядуць грацыёзны карагод пад музыку сонечных промняў.

Вось бярозы асцярожна спускаюцца па схіле ў нізіну, і каля балотца застываюць у нерашучасці. Далей ісці не адважваюцца. Бы шляхетныя паненкі, баяцца замачыць белыя ножкі.

Нам застаецца перабрацца цераз балацінку, пераскочыць нешырокі чысты ручаёк...

Калісьці, колькі вякоў назад, на гэтым месцы быў роў. Такімі акружалі ўмацаванні. Адразу ж за ровам пачынаюцца крапасныя валы.

Пераскакваем ручай і ўзнімаемся на валы. Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанскі лагер. Зараз засталіся разбураныя зямлянкі. Зрэдку нам удавалася знайсці абʼедзеную іржой рулю вінтоўкі, гільзу альбо яшчэ што-небудзь з партызанскага рыштунку. Знаходка пераходзіла з рук у рукі. Мы з хваляваннем думалі аб тых, хто некалі трымаў у руках гэтую вінтоўку, хадзіў з ёю на заданні, знаходзіўся на валасок ад смерці, змагаючыся з фашыстамі...

Потым мы збіралі сушняк, распальвалі цяпельца, даставалі з кішэняў хлеб, сала. Хлеб падсушваўся над полымем да ружовай скарыначкі, якая прыемна хрумсцела на зубах, а сала, насаджанае на дубчык, смажылася і падвэнджвалася да чарнаты. Пасля мы сілкаваліся гэтым няхітрым абедам, і нам здавалася, што няма на свеце лепшых прысмакаў.

Адпачыўшы крыху, мы чародкай зляталі з супрацьлеглага боку валоў і па паваленай у багну яліне перабіраліся на бераг невялікага маляўнічага азярца.

Азярцо круглае, метраў дзвесце ў дыяметры. Раней яно было большым, з усіх бакоў абступаў яго цёмны лес. Зачараванымі прыгажунямі шапталіся чараты, а русалкі быццам пера-

(Працяг на стар. 10)

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

Падручнік беларускай мовы для пятага класа
Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ

Рая прыбегла са школы, паклала сумку і ўжо хацела зняць паліто, як раптам убачыла канверт. Яна ўзяла яго ў рукі і, пазнаўшы почырк, узрадавалася. А праз хвіліну ўжо чытала:

„... Ты пішаш, што ў вашай школе ў гэтым годзе вельмі багаты куток прыроды, што ў цябе таксама шмат раслінных калекцый. І я, ведаеш, зайздрошчу табе, Рая. У нас жа не тое, каб такія экспанаты былі ў вучняў, іх нават мала ёсць у школе...“

Рая прачытала і задумалася. Як жывыя перад ёю паўсталі сонечныя дні лета, калі яна была ў лагеры. У першыя дні Рая не мела там сябровак і ёй было сумна. Але аднойчы да яе падышла чарнявая дзяўчынка. І хутка Рая адчувала сябе з ёю як з даўняй знаёмай і блізкай сяброўкай. А калі ад'язджалі дадому, яны абяцалі перапісвацца.

І чаканы ліст ад Насці прыйшоў.

„У Насцінай школе мала калекцый па прыродзе, — падумала Рая. — А што, калі б...“

Тут Рая ўсміхнулася і з лістам у руках выбегла на двор. А праз нейкія-небудзь дзесяць хвілін яна была ўжо ў Юркі. Ён узначальваў іхні гарцэрскі атрад і яго ўсе шанавалі.

Ускочыўшы ў пакой, Рая перадала Юрку канверт і тут жа пачала расказваць свой план.

Юрка цярпліва выслухаў яе блытаную гаворку, пасля прачытаў Насцін ліст.

— Добра, Рая, — сказаў ён нарэшце, — гэта мы разгледзім на зборы.

А вечарам наступнага дня Рая ўжо гаварыла гарцэрам:

— У гарадской школе, у якой вучыцца мая сяброўка Насця, мала дапаможнікаў па прыродзе. Таму я прапаную кожнаму гарцэру прынесці па некалькі экспанатаў і паслаць пасылку, — сказала Рая.

— Сухія, кволыя лісточкі пасылаць пасылкай? Ха-ха-ха... — засмяяўся Валерык.

— А можна, — падтрымаў Раю Славік.

Але тут узяў слова Юрка.

— Па-мойму, — сказаў ён, — Рая і Славік гавораць правільна. Я для гэтай пасылкі аддам частку сваёй калекцыі.

— І я таксама, — заявіла Рая.

— І я..., — падтрымаў Славік.

— І я, і я... — наперабой гаварылі гарцэры.

Змаўчаў толькі адзін Валерык. Ён, здавалася, быў незадаволены рашэннем сяброў. Але, калі потым гарцэры сабраліся рабіць пасылку, Валерык прыйшоў з вялікай калекцыяй.

— Самае лепшае прынёс, — сказаў ён і паказаў дзецям некалькі акуратна засушаных лісткоў рэдкіх раслін і два калівы выгадаваных ім паўтараметровых сцеблікаў лёну-даўгунцу.

Тут жа хлопчыкі збілі невялічкую скрыначку, куды надта асцярожна спакавалі калекцыі раслін. Затым на ёй напісалі Насцін адрас. Назаўтра Рая аднесла пасылку на пошту.

Прайшло сем, восем, дзесяць дзён, а ад Насці не было ні слова. І ў гарцэраў з'явілася думка, ці не прапала пасылка ў дарозе. Больш за ўсіх пра лёс пасылкі непакоілася Рая.

Кожны дзень яна бегала на пошту, каб даведацца, ці няма ёй пісьма. Але заўсёды адказ быў адзін і той жа: няма.

Але неяк пад поўдзень у клас зайшоў паштальён, дзядзька Нічыпар. Выняўшы з сумкі невялічкую паперку, ён запытаў:

— Раіса Цвілік тут вучыцца?

— Вучыцца! Тут Рая! — загаманілі пяцікласнікі, а Рая падышла да паштальёна.

— Табе квітанцыя на пасылку, — сказаў ёй дзядзька Нічыпар.

— Як? Наша пасылка вярнулася? — здзівілася Рая.

Калі скончыліся заняткі, Рая з квітанцыяй пайшла за пасылкай. Гарцэры чакалі. Кожны чамусьці адчуваў сябе вінаватым у тым, што іхняя пасылка вярнулася.

Мінула пяць, можа дзесяць хвілін, пакуль з пошты прыйшла Рая. Яна абыякава паклала пасылку на стол і прамовіла:

— Ох, стамілася, надта ж цяжкая...

Першы да пасылкі падышоў Юрка і, не разглядаючы яе, пачаў разгортваць. Раптам ён радасна крыкнуў:

— Але ж і падарунак нам прыйшоў!

Усе глянулі і ўбачылі ў яго руках кніжкі!

Вядома, гэтая пасылка была ад гарцэраў, якія вучыліся разам з Насцяй — сяброўкай Раі.

Праз некалькі дзён са школьнай бібліятэкі гэтыя кніжкі пазычалі і з зацікаўленнем чыталі не толькі пяцікласнікі, але таксама вучні шостага і нават восьмага класа.

**Паводле Івана Сіняўскага.**

*1. Пра якія добрыя ўчынкі гарцэраў расказваецца ў гэтым апавяданні?*

*2. Раскажыце пра вашу перапіску з сябрамі з Польшчы, Савецкага Саюза і іншых краін.*

*3. Усім класам складзіце ліст у „Зорку“ пра тое, як вы правялі канікулы, самыя цікавыя здарэнні ў час канікул, пачатак навукі ў школе.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 346513, Ростовская обл., г. Шахты-13, ул. УО-Спартак, дом 20, Кривошееву Алексею. 7 клас.

* * *

СССР, 346502, Ростовская обл., г. Шахты-2, пер. Алма-Атинский, 23. Сулина Наталья. 7 клас.

* * *

СССР, 346901, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. К. Либкнехта, 14/8. Стальная Ира, 13 год.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёвский. Колосову Сергею. 8 клас.

* * *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, проспект 40-летия Победы, 75/4, кв. 43. Дядюну Виталию. 13 год.

* * *

СССР, 346504, Ростовская обл., г. Шахты-4, ул. 25 лет Октября, 12. Калмыковой Лене. 8 клас.

## СУР'ЁЗНЫ І ПРАЦАВІТЫ



Янка Галёнка з Тафілаўцаў, хоць яму толькі 14 год, заслужыў ужо пашану нават у дарослых. Ён памагае бацькам пры ўсіх палявых работах, умее абслугоўваць усе машыны, хоць у тэхнічнай школе яшчэ не вучыўся.

Янка таксама вельмі любіць фатаграфаваць. У яго ўжо выходзяць зусім надрэнныя фатаграфіі. Асабліва яго прыцягваюць краявіды, і гэта ў яго таксама добра выходзіць. Маем надзею, што Янка будзе карэспандэнтам „Зоркі“, а потым і „Нівы“.

Пішы, Янка, і прысылай свае здымкі.

**Мар'я Пень**

(Працяг на стар. 9)

## ЗАЎВАЖАНАЯ ПАМЫЛКА

— Відавочна, памылка! — ускочыў Санька. — І не проста памылка, а заўважаная памылка. Разумееш, заў-ва-жа-на-я! Ведаеш, што! Мой тата ўчора па падпісцы энцыклапедыю атрымаў! Таўшчэзны таміна! А ў ім лісток. Так і называецца: „Заўважаныя памылкі“. Вось тата абураўся! „Такое, — кажа, — аўтарытэтнае выданне — і безліч памылак!“

— А тут звычайны задачнік, — сказаў я.

— Потым, — успомніў Санька, — тата прачытаў, што за ўсе дасланыя заўвагі і пажаданні выдавецтва будзе вельмі ўдзячна... А што, калі мы напішам у выдавецтва пісьмо?

— Абавязкова напішам! — усклікнуў я. — Так і пачнём: „Заўважаная памылка“.

— І нам проста ў школу з самага выдавецтва падзяку прышлюць! — узрадаваўся Санька. — Вось гэта будзе здорава!

Санька пайшоў дамоў, а я сеў і задумаўся: „А раптам гэта не памылка?!“

Дык што — тады?

(Працяг са стар. 9)

## НА ЗАМЧЫШЧЫ

тваraліся ў белыя лілеі і цудоўным вянком ляжалі ўкруг берагоў на ціхай вадзе. Ля другога берага амаль не звяртаючы на нас увагі, спакойна плавалі дзікія качкі.

Тут, на беразе „замкавага“ возера, таксама было шмат загадак.

Калі не ўдавалася дастаць лодку, мы ішлі сюды пешка. Гэта добрых сем кіламетраў.

Расказвалі: у тым месцы, дзе ад бальшака аддзялялася сцяжына на „замчышча“, па начах чуўся жудасны плач.

Наслухаўшыся ўсяго гэтага, нам станавілася страшна.

... З тых часоў мінулі гады. На многія пытанні праліла святло кніга. Адкрыліся новыя старонкі гісторыі роднага Пліса. Стала вядома, што месца нашага пакланення — не старажытны замак, а былое гарадзішча.

Але для мяне і маіх сяброў тое месца па-ранейшаму застаецца „замкам“, як мы некалі яго называлі. Вечна прыцягальнай сілай, якая заўсёды вабіць да родных мясцін, дзе прайшло дзяцінства.

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-



Курыца водзіць 13 куранят. Дапамажыце ёй адшукаць усіх.



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 13 верасня а 18-й гадзіне.

### СВІТАНАК
**(З рэпертуару „Сяброў")**

**Птушкі ў вырай ляцяць, не пакінуўшы ў гнёздах нікога,**
**У знямелых лясах ападае лісцё да вясны.**
**Гэта наша пара, нас паклікала з дому дарога,**
**А матулям пра нас будуць сніцца бясконцыя сны.**

**Прыпеў:**
**Узняўся над лесам світанак крылаты**
**І зорка упала, як кропля зняслa,**
**Там кружыцца бусел над роднаю хатай.**
**Чакае матуля мая.**

**Ад крынічнай вады так у вас застаецца гарчынка,**
**На суровай мяжы падае нам удача руку,**
**З краю ў край над зямлёй праплывае, плыве аблачынка,**
**Як хусцінка плыве, што ўпусціла матуля ў раку.**

**Прыпеў.**

## БАРАДАТЫ КАЗЁЛ

Задумаўся Казёл рагаты:
„Я з барадой — і Вартаўнік наш барадаты.
Сцягнуў капусту я — ён цягне ўсё, праклятты.
Дык вось чаму ж мяне за гэта б'юць,
Вартаўніку ж зарплату выдаюць?"

* ✲ *

Каб мы ўсе адпор давалі злу,
То і Вартаўніку папала б, як Казлу.

**Халаф Гарданаў**



# НІЎКА





## НА ЎРОКУ ЗААЛОГІІ

Настаўніца спытала ў вучня:
— Чым нам дапамагаюць птушкі?
— Птушкі нам дапамагаюць дзяўбсці насякомых! — адказаў вучань.

## ЗАРЭГІСТРАВАЛІ

Падчас вобыску ў Яўхіма быў знойдзены і канфіскаваны самагонны апарат. Крыўдна стала яму, што ў яго знайшлі, а ў суседзяў — не. Прыйшоў ён да ўчастковага міліцыянера ды й кажа:

— Аддайце мне апарат да вечара, а заўтра будзеце мець іх у дзесяць разоў больш...

Паслухаў яго міліцыянер, аддаў апарат Яўхіму. Ідзе ён сялом пасвістваючы, а суседзі павыбягалі на дарогу і распытваюць, як гэта яму ўдалося вярнуць апарат.

— Ды нічога страшнага, — адказаў Яўхім, — зарэгістравалі і аддалі. Цяпер можна спакойна карыстацца...

На наступны дзень усё сяло панесла свае самагонныя апараты ў міліцыю на рэгістрацыю.



**Нарадзіўся ў кашулі, але з часам прапіў і яе.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— У нас на сто аўцаматак 125 ягнят! — з гордасцю паведамляе чабан калегу з суседняга саўгаса.
— А ў нас наадварот: на пяць ягнят сто аўцаматак, — адказаў той.

✲

— Якім чынам уцёк вязень нумар 38? — грозна пытае начальнік турмы ахоўніка.
— У яго быў ключ, пане начальнік.
— Дзе ён яго ўкраў?
— Ён яго не ўкраў, пане начальнік, а сумленна выйграў у мяне ў карты.

✲

У аўтобусе:
— Скажыце, чаму мы так доўга стаім?
— Вадзіцель наш аказаўся джэнтльменам і ўступіў сваё месца адной пажылой лэдзі.

## НЕ АДГАДАЛІ

— Чаму вы не замацавалі электрарухавік? — пытае брыгадзір у электрыка.
— Ды не было гаек... — адказаў электрык.
— Я толькі адтуль, гайкі ляжаць на месцы...
— Ну, дык значыць, не было ключоў! — выкруціўся электрык.

## ПАКІНУЎ У ШКОЛЕ

Маці папракала сына, што той кожны дзень прыносіць „двойкі". І вось аднойчы ён прыбег дамоў радасны:
— Я сёння не прынёс „двойкі"! Я пакінуў іх разам з дзённікам у школе.

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### АБ'ЯВА

У кабінеце санітарыі і гігіены праводзіцца прыём пацыентаў толькі з чыстым сумленнем.

### НІ МІНУТЫ ПРАСТОЮ

Цалкам ліквідаваны прастой вагонаў на станцыях Шылава і Мылава. Дадаткова пракладзены шлях дазваляе кругласутачна курсаваць паміж станцыямі паражняку.

**З чаго смяюцца суседзі.**



**У краме для пісьменнікаў.**



1.

2.



# Курёзы

## АХВЯРА ЎЛАСНАЙ ЗАБЫЎЛІВАСЦІ?

Якраз такою ахвярай, здавалася б, стаў паўднёваафрыканскі тэлевізійны каментатар В. Саламанс. Пасля аўтамабільнай аварыі ён трапіў у йаганесбургскую бальніцу Клерксдурп. А тут адразу ж усё пайшло заведзеным парадкам: перш чым даручыць пацярпеўшага лекарам, чарговы адміністратар пацікавіўся яго гэтак званай пазнавальнай карткай пра расавую прыналежнасць, каб вырашыць, у які корпус трэба пакласці пацыента — у корпус нумар адзін для белых, у корпус нумар два для „каляровых", ці ў карпус нумар тры для чорных.

Вядомы ўсім тэлегледачам каментатар быў белым, але на жаль, карткі той пры ім не было. Затое ў яго, на найвялікшы жаль, была смуглявая скура. Дык вось, баючыся згрэшыць супроць закону ды атрымаць наганяй ад улад, бальнічная адміністрацыя вырашыла ўсё ўдакладніць. Пакуль наводзіліся даведкі, няшчасны ляжаў у калідоры бальніцы, дзе і памёр, не дачакаўшыся лекара.

Што ж, на першы погляд можа выдацца, што фатальную ролю тут адыграла забыўлівасць. Але не трэба шмат прыглядацца, каб убачыць, што В. Саламанс стаў яшчэ адной ахвярай бязглуздай, антычалавечай палітыкі апартэіду.




**Калі табе ніхто не верыць, гэта значыць, што ты ўпершыню сказаў праўду.**